ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

№ 7 (ліпень) 2015

## У нумары:






Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА, тэма Міхася СЛІВЫ.

# Прыколы на колах

Міні-кніжка



Малюнак Алега ГУЦОЛА.







# Браткі нашыя меншыя

вачыма Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА









Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

Вожык
Часопіс сатыры і гумару
1

**Мікалай ГЛЕБ**

## ЖАРТАМ І ЎСУР'ЁЗ

### Хаўруснікі

Моль з павуком пасябравалі,
Сваё жыццё абмеркавалі:
Былі б шчаслівыя бясконца,
Каб назаўсёды згасла сонца.

### Абое рабое

– Які ж ты пыльны і каравы! –
Так Бот крычаў аднойчы правы
Да левага, свайго суседа.
Што брудны сам – таго не ведаў.

*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.




Сцісласць – сястра таленту і мачыха ганарару.

**Аптыміст бачыць святло ў канцы тунэля, а песіміст бачыць у тунэлі канец свету.**

Часам толькі нечалавечыя намаганні дазваляюць чалавеку заставацца чалавекам.

**Паглядзіш іншай праўдзе ў вочы... Вочы мае б не бачылі такой праўды!**

Лысы, а як кучарава жыве!

**Посуд б'ецца на шчасце ў чужым доме, а ў сваім — на скандал.**

Прайшоў агонь і ваду, каб здаць медныя трубы як каляровы метал.

**Скокнуць вышэй галавы хочуць тыя, хто яе згубіў.**

Цукар можа стаць прычынай хваробы, а хвароба – не цукар.

**Даслаў**
**Анатоль БАРЫСАГЛЕБСКІ,**
*г. Гомель.*

## Расчараванне



Кожны раз мяняўся тварам,
Калі бачыў у кіно
Вобраз, пра які я марыў
І які кахаў даўно.

Прыгажуня – проста панна,
Я ад шчасця ледзь не млеў.
І аднойчы нечакана
У жыцці цябе сустрэў.



Пагадзілася адразу
Стаць маёй, нібыта ў сне.
Але хутка ты, зараза,
Нервы сапсавала мне.

Даглядаў, бярог ад пылу,
Непрыемнасцей, бядот.
Ты ж з мяне цягнула жылы
Пастаянна, круглы год.



Гэта не пустыя словы,
Што была, як той бандыт.
Мне на твой абутак новы
Нават банк даваў крэдыт.

Не прадбачыў гэткі вынік,
Ды маёй няма віны:
Я цябе на аўтарынку
Ўчора збыў за паўцаны...

**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*




## «СТАРЫЯ ГРАХІ

***Віцебск.*** За грахі, як ні круці, раней ці пазней расплачваюцца. Гэта ж датычыцца пазык і крэдытаў. У любым выпадку даўжніку давядзецца іх аддаваць. Часам для гэтага трэба ці моцна напружвацца, ці праяўляць багатую фантазію.

Так дзеля выплаты сваіх крэдытаў бухгалтарка ў мясцовага ТАА, якое займалася архітэктурай і інжынернымі паслугамі, выкрала амаль 480 мільёнаў рублёў. Карыстаючыся службовым становішчам, яна пералічвала грошы з рахунка прадпрыемства на асабістую банкаўскую картку.

У бліжэйшы час за такія махінацыі даўжніца можа атрымаць да дванаццаць гадоў зняволення з канфіскацыяй маёмасці. Магчыма, хоць так у жанчыны атрымаецца заплаціць за «старыя грахі».

## ПАД ЛЯЖАЧЫ КАМЕНЬ ВАДА НЕ ЦЯЧЭ

***Любань.*** Вада ў гару не цячэ, як і пад ляжачы камень. Але калі вельмі захацець ці даць нейкі штуршок, чалавек здольны паспрачацца з гэтымі ісцінамі.

Напрыклад, калі супрацоўнікі Камітэта дзяржкантролю завіталі з праверкай на РУП «Любанская ЖКГ», то знайшлі шэраг парушэнняў. Гэта і аферы з грашамі – арганізацыя-падрадчык завысіла кошт выкананых і аплачаных работ аб'екта «Каналізацыя горада Любань. Галоўная каналізацыйная помпавая станцыя (ГКПС)» на больш чым 113 мільёнаў рублёў і запатрабавала яшчэ 145 мільёнаў рублёў нібыта за выкананую работу. Будаўніцтва ГКПС зацягнулася на пяць гадоў (гэта пры нарматыве ў восем месяцаў) і зараз яе гатоўнасць складае толькі на 65 працэнтаў. Ды і на будаўнічай пляцоўцы робіцца бязладдзе – яна не агароджана, у калодзеж ГКНС і камеру пераключэнняў трапляе вада, сеткі каналізацыі і тампанаж свідравін водапаніжэння стаяць раскапаныя.

Падобная сітуацыя адбываецца і з ачышчальнымі збудаваннямі каналізацыі. На іх было зрасходавана амаль восем мільярдаў рублёў. Але, з–за адсутнасці фінансавання, з 2013 года работы на аб'екце не вядуцца.

Усе правапарушэнні зафіксаваны, і матэрыялы перададзены ў праваахоўныя органы. Гэта праверка стане добрым штуршком для таго, каб «Любанская ЖКГ» здолела справіцца са сваім «ляжачым каменем» – каналізацыяй – і нарэшце дабудаваць яе.

## НЯЎДАЛАЯ МАСКІРОЎКА

***Наваполацк.*** Злачынцы кожны год прыдумляюць новыя спосабы падману і вымантачвання грошай, не звяртаюць увагу на закон ці не плацяць падаткі. Але раней ці пазней яны трапляюць у поле зроку міліцыі.

Дзве сястры займаліся незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасцю. Яны прадавалі бялізну і адзежу. На дваіх у іх атрымалася зарабіць амаль 390 мільёнаў рублёў. Каб рэкламаваць тавар і знаходзіць пакупнікоў, стварылі асабістыя старонкі ў адной сацыяльнай сетцы. Зразумела, што падпісаліся не сваімі імёнамі. Для маскіроўкі назваліся «Alesia модная» і «Ксюшка))) Сладких снов». Але гэта не дапамагло ім пазбегнуць адказнасці, бо фінансавыя міліцыянеры ўсё роўна іх затрымалі.

За такое правапарушэнне сёстры атрымаюць штраф ці трапяць за краты на тэрмін да двух гадоў. Можа, пасля гэтага яны зарэгіструюцца як індывідуальныя прадпрымальнікі і будуць без праблем называць свае сапраўдныя імёны.

*Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.*




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

## Міхась МІРАНОВІЧ




### Мастацкая работа

Хтосьці ў пятніцу вечарам,
Хтосьці ў суботу –
Едуць творцы на дачы,
Сезон наступае!
Дык ці можам мастацкай
Зваць тую работу,
Калі творца на лецішчы
Градкі капае?

### Вывучэнне прыроды

Думаю:
«Вось прычакаю нагоды –
І вывучэннем займуся
Прыроды».
Але на дачнае поле
Іду –
І вывучаю
Адну лебяду...

### Касмічны век



На двары даўно –
Касмічны век,
Цуды тэхнікі,
Прагрэс наўкруг...
Ды на дачных сотках
Чалавек,
Сам сябе запрогшы,
Цягне плуг.

### Не да дачы



Мне жонка
Ставіла задачу:
– Перакапаць
Патрэбна дачу!
Ды не ўскапаў я,
Ёсць прычына:
Суседку ўбачыў
У бікіні!

### На адпачынак



Вось прамільгнулі
З нядзеляй субота,
Гоману дачнага
Больш не чуваць –
З дачы народ
Пасля цяжкай работы
Ў горад вяртаецца
Адпачываць.

*г. Віцебск.*




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.

### Анекдот

– Любы, ты абяцаў у кіно схадзіць!
– Любы абяцаў – любы схадзіў...




## Міхаіл МАСКАЛЬЧУК




Збылася даўняя мара майго сябра Івана. Нарэшце ён купіў патрыманы аўтамабіль «Жыгулі» – «капейку». Машына была старэйшая за Івана на пяць гадоў і патрабавала да сябе пільнай увагі, гэта значыць, рамонту. Менавіта з-за гэтага мой сябар і завітаў да мяне ў нядзелю ў шэсць гадзін раніцы.

Зразумела, што я яшчэ моцна спаў і бачыў цудоўныя сны, але настойлівы званок у дзверы прымусіў падняцца з ложка.

– Іван? Што здарылася? – захваляваўся, убачыўшы на парозе сябра.

– Ты ж ведаеш: нядаўна купіў «капейку». Дапамажы разабрацца, бо правы толькі месяц назад атрымаў, – пачаў прасіцца Іван.

– Што з табой зробіш, пайшлі, пакажаш свой набытак, – згадзіўся я, пазяхаючы. – Усё роўна цяпер не засну...

Мы хутка апынуліся на ўскрайку пасёлка, дзе знаходзіліся гаражы мясцовых аўтааматараў. Іван дастаў з кішэні ключы і, азірнуўшыся па баках, адамкнуў вялізны замок на дзвярах:

– Вось яна – мая чырвоная «ластаўка», мая даўняя мара, любуйся!

*Працяг на стар. 4.*




Добры дзень,
калючы дружа!

Хоць я і дарослая, але вельмі люблю прайсціся ў магазіне каля цацак. Чаго толькі тут няма: розныя гульні, мяккія мядзведзі і зайчыкі, яркія машынкі, прыгожыя мазаікі... Нават шкада становіцца, што ў маім дзяцінстве пра такія забаўкі даводзілася адно марыць.

Але нядаўна зайшла магазін «Суседзі» і зразумела, што маленства ў мяне ўсё ж было добрае. Паглядзі, братка, сам на гэтую ляльку (фота).




Канешне, спачатку я пасмяялася: маўляў, вясёлыя вечарыны ў Марыны атрымліваюцца, калі яна так выглядае. А потым задумалася: адразу ж бачна, што тавар бракаваны, навошта яго выстаўляць для продажу? Хіба толькі для таго, каб дзяцей пужаць...

**Вера ПАЎЛАВА,**
*г. Мінск.*




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

## Мініяцюры

### Гультаёва апраўданне

Калі на поле ўсе выходзяць,
Яўхім сабе цянёк шукае.
Крычыць: «Мне сонца вельмі шкодзіць,
Дажджу я лепей пачакаю!..»

### Перспектыва

– Ты сто гадоў мне не патрэбны! –
Сказала мужу жонка гнеўна.
– А раптам я зраблюся лепшы,
Як пойдзе год жыцця сто першы?




**Лявон АНЦІПЕНКА,**
*г. Шклоў.*

Працяг. Пачатак на стар. 3.

– Слухай, а яна Мамая часам не бачыла? – з усмешкай спытаў я.

– Хопіць шуткаваць! Лепш паглядзі, што з ёй не так, – незадаволена прамовіў Іван і асцярожна, круцячы галавой то ўлева, то ўправа, выехаў з гаража.

Як толькі «ластаўка» апынулася на свежым паветры, да нас адразу пачалі падыходзіць вопытныя аўтааматары.

Першым да машыны прыдыбаў кульгавы Фядот – уласнік «вушастага» «запарожца». Ён моцна стукнуў нагой па пярэднім коле і спытаў:

– Правяраў ціск?

– Я не ведаю, як, – адказаў збянтэжаны Іван.

– Эх, ты, шафёр, а яшчэ ездзіць збіраецца... Ну добра, дапамагу. Многа не вазьму – бутэльку гарэлкі ды кавалак сала.

Мой сябар яшчэ нічога не паспеў адказаць, як ужо з другога боку прысунуўся ўласнік старэнькай дваццаць першай «Волгі» дзед Ігнат:

– Запусці, сынок, рухавік, паглядзім, як працуе.

Іван завёў машыну, дзед усеўся за руль, пару раз газануў і ўздыхнуў:

– У рухавіку зусім слабы ціск. Доўга ты не наездзішся!

– Што ж мне рабіць? – не на жарт спалохаўся Іван.

– Трэба рэгуляваць клапан ціску. Работы, вядома, шмат... Але я многа не вазьму: дзве пляшкі гарэлкі, – і дадаў. – Лепш, чым я, табе ніхто не зробіць.

– А тармазы правяраў?

Іван ажно здрыгануўся. Гэта быў Ціт, уласнік зялёнага «Масквіча», які дастаўся яму ад цешчы. У адказ мой сябар толькі адмоўна пакруціў галавой.

## Жартаўнікі

– Навошта ты булку жуеш? Ужо абед на носе!

– А ў мяне нос доўгі, яшчэ прагаладаюся.

## Зразумеў па-свойму

Мужчына дапамог прывабнай дзяўчыне: паднёс да прыпынку цяжкі чамадан. Тая кажа:

– Можна, я аддзячу вам натурай?

– М-можна, – разгубіўся мужчына.

– Тады частуйцеся яблычкамі, калі ласка!

## Шкадаванне

– Гэта ж трэба, колькі я награшыў за сваё жыццё! – узрушана, са шкадаваннем гаворыць знаёмаму Захар Антонавіч. – А мог жа яшчэ больш...

## Падабрала ключык

Размаўляюць сяброўкі.

– Ты чула, наша Эльвіра гэты Новы год сустракала не адна, а з мужчынам!

– Цікава, як ёй гэта ўдалося з такой знешнасцю?




– Кажуць, купіла скрыню гарэлкі і папрасіла дапамагчы паднесці дадому...

**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

## Радасць

Муж вяртаецца з працы нападпітку і ў цудоўным настроі. Жонка пытае:

– Няўжо прэмію выдалі?

– Не, знялі. Але ў Пятра таксама, – адказвае той.

## Бабуля-манюка

Сын:

– Татка, а праўда, што мяне бусел прынёс?

– Праўда, сынок.

Дачка:

– Татка, а праўда, што мяне ў капусце знайшлі?

– Праўда, дачушка.

Дзеці – разам:

– Якая ж манюка наша бабуля! Яна казала, што нас з радзільнага дома прывезлі.

## Не перавяліся

Жонка прыходзіць дадому і хваліцца мужу:

– Не перавяліся яшчэ на свеце інтэлігентныя мужчыны. У мяне ў краме выпадкова выпаў кашалёк, дык адзін мужчына падняў яго і запрасіў мяне ў рэстаран.

Муж – у адказ:

– Не перавяліся і спагадлівыя жанчыны. Я выпадкова адну пацалаваў, дык яна нанач да сябе запрасіла...

## Не тое падумаў

Двое ідуць з крамы і сустракаюць трэцяга.

– Будзеш трэцім?

– Вядома!

– Тады пайшлі калоць машыну дроў.

**Даслаў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




– Націсні на педаль тормаза! – загадаў Ціт, прыжмурыўшы вока.

Іван выканаў загад і з надзеяй паглядзеў на яго.

– Дрэнна, вельмі дрэнна! У цябе ж амаль няма тармазоў. Педаль праваліліся да падлогі.

– І што цяпер рабіць? – ледзьве не заплакаў Іван.

– Табе, хлопча, нічога. Усё зраблю я... Праўда, трэба будзе лезці пад машыну. Словам, з цябе тры пляшкі гарэлкі і закусь, – заключыў Ціт, абыходзячы «ластаўку».

– Іван, – шапнуў я на вуха сябру, – давай адсюль хутчэй уцякаць. Вунь бачыш, яшчэ чалавек пяць сюды набліжаюцца, і ўсе з парадамі.

Мы ўскочылі ў машыну і выехалі на дарогу. Каля бліжэйшага ляску спыніліся. Я ўзяўся супакойваць Івана:

– Не хвалюйся, дружа. Усё ў цябе з машынаю нармальна. А гэтыя аўтааматары вырашылі скарыстацца тваёй нявопытнасцю ды выцягнуць пляшку-другую чаго моцнага. Даставай інструмент, зараз пачнём займацца тваёй «ластаўкай».

– А колькі гэта будзе каштаваць? – з асцярогай паглядзеў на мяне Іван.

– Да хаты давязеш... Ну і, канешне, бутэльку гарэлкі паставіш, – засмяяўся я.

*Гродзенская вобласць,*
*г. п. Вялікая Бераставіца.*




# Навука і гумар — разам весялей!

Кажуць, што ўсе навукоўцы – дужа сур'ёзныя людзі: маўляў, яны даследуюць важныя праблемы, вывучаюць актуальныя пытанні, праводзяць эксперыменты... Карацей, тут не да жартачкаў. Сённяшняя вожыкаўская дэбютантка Вераніка Мандзік лёгка разбурае гэты стэрэатып і сваім прыкладам паказвае, што інтэлект і пачуццё гумару – паняцці цесна звязаныя.



Дзяцінства Веранікі прайшло на маляўнічай нёманскай зямлі: нарадзілася дзяўчынка 9 жніўня 1984 г. у вёсцы Сямашкі Мастоўскага раёна. Падчас вучобы ў школе захапілася беларускай мовай (стала нават пераможцай Рэспубліканскай алімпіяды па гэтым прадмеце!) і, вядома ж, літаратурай. У юнацтве пачала складаць вершы, але першыя публікацыі з'явіліся толькі падчас навучання на факультэце беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя Максіма Танка («ЛіМ», «Маладосць», калектыўны зборнік паэзіі «Мы маладыя»). Скончыўшы ўніверсітэт, Вераніка вырашыла паспрабаваць сябе ў навуковай дзейнасці і паступіла ў аспірантуру Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Зараз – малодшы навуковы супрацоўнік, даследуе сучаснае беларускае вымаўленне.

Відаць, нашы пастаянныя аўтары і чытачы здзівіліся: яны ведаюць Вераніку Мандзік як рэдактара аддзела літаратуры часопіса «Вожык».

## Лірыка з-пад пяра сатырыка

Вясна прыйдзе. Хвілінку.
Вось-вось.
І ў душы маёй стане адліжна.
Я зрабілася крохкай наскрозь,
Як з алоўка графітавы стрыжань.

Можа, гэта авітаміноз?
Не хапае ультрафіялету?
Добры доктар з аптэкі прынёс
Пачак абэцэдэшнага лета.

Буду моўчкі таблеткі глытаць
(Нездарма ж выраблялa іх фірма!).
Доктар, пэўна, захоча спытаць
Пра узровень маіх эндарфінаў.

– Абнулілася перад вясной, –
Адкажу дзерзкавата наўмысна.
– Вам паказаны поўны спакой
І... настойкі вішнёвай грам трыста.

– У мяне ёсць бутэлька віна,
А настойкі няма пад рукою.
– Што ж, і гэтага хопіць спаўна, –
Сам сядае «лячыцца» са мною.

Даспадобы прыйшлася дваім
Супрацьстрэсавая тэрапія.
І ў вясну мы пакрочылі з ім,
Хоць былі яшчэ ўчора чужыя.

Ловім разам ультрафіялет,
Папаўняем запас эндарфінаў...
Так чарговы лірычны сюжэт
Пад пяром сатырычным загінуў.



**Вераніка МАНДЗІК,**
*г. Мінск.*

## Анекдоты

Мужчына абдымае сваю машыну, цалуе капот, дзверцы і плача. Сусед пытаецца:
– Прадаеш ці што?
– Ды, не. Жонка правы атрымала!

☺ ☺ ☺

Размаўляюць двое сяброў:
– Я чуў, ты машыну купіў?
– Так, цяпер усё паспяваю! Уяўляеш, сёння з'ездзіў па запчасткі, потым заправіўся, заехаў у аўтасэрвіс масла замяніць, у краму – па тасол, потым яшчэ тэхагляд прайшоў. І як бы я ўсё гэта зрабіў без машыны?




Малюнак Алега ГУЦОЛА.

Усё правільна! Амаль два гады таму яна трапіла ў наш калектыў, як сама прызнаецца, «абсалютна выпадкова, але я бясконца ўдзячна лёсу за такі падарунак. Лічу, што многія жыццёвыя цяжкасці мне дапамагло пераадолець пачуццё гумару. Таму працаваць у рэдакцыі легендарнага часопіса, які ўзнімае настрой беларусам не адно дзесяцігоддзе, для мяне вялікі гонар. Сумяшчаць рэдактарскую дзейнасць з навуковай не цяжка, а вельмі цікава!»

Да прыходу ў часопіс Вераніка пісала выключна лірычныя вершы. Аднак вясёлы «Вожык» зрабіў сваю справу: натхніў паэтку на гумар. Што з гэтага атрымалася — меркаваць вам, шаноўныя!

## КАРАТУШКІ З-ПАД ПАДУШКІ

Спартсмен крычаў:
«Як стаць мне першым?
Люблю занадта малако.
Таму у дартсе я не лепшы
Ігрок».

* * *

— Скажы, Сцяпан, як умудрыўся
Ты здзейсніць гэтулькі афер?
— Яшчэ ні разу не дажджыўся
Чацвер...

## Знарок не прыдумаеш

«Сымон Зайчанка — чалавек някепскі і здольны арганізатар. Рэдка надараецца, што нешта ўкрадзе ці пойдзе ў запой на тыдзень-другі. А так можна смела рэкамендаваць на пасаду кіраўніка аграфірмы».

*(З характарыстыкі.)*

«Як патлумачыў пчаляр Сідарчук, мёду на пасецы стала меней таму, што пчолы знасіліся і не здольныя часта лятаць на меданосы».

*(З дакладной.)*

«У нашым магазіне шырокі выбар прамысловых тавараў. Маюцца боты і чаравікі, насенне морквы і буракоў, малочныя прадукты».

*(З рэкламы.)*

«Прадаю прыватны дом з усімі бытавымі выгодамі: калодзежам, садам і дрывотняю».

*(З аб'явы.)*

**Выпісала Вольга ЛАТЫШАВА,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*

«Крама не працуе, паехала на гандлёвую міжрайбазу».

*(З аб'явы.)*

«Камунальная служба ў ліку асноўных задач працуе над вырабам крышак шахтавых калодзежаў, пытаннем па замене цеплавых сетак».



«Аб выніках работы ў частцы барацьбы з асацыяльнымі паводзінамі грамадзян даклалі міліцыя і камунальная служба».

«З кожнага суб'екта прафілактыкі павінен быць прынцыповы попыт, у адваротным выпадку работа не наладзіцца».

*(З газет.)*

**Прачытаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*

**Міхась СЛІВА**

## ЗАЙЦЫ БЫВАЮЦЬ РОЗНЫЯ

*Гісторыйка*





Супрацоўніцы адной раённай установы паехалі па рабочых справах у вёску. Назад вярталіся спадарожным транспартам. Стаялі і «галасавалі» на дарозе, якая праходзіла праз лес.

Машын было мала, ды і тыя не спыняліся. Надакучыла чакаць. Адна з іх, па прозвішчы Заяц, пайшла паглядзець, ці ёсць грыбы.

Раптам спыніўся аўтамабіль. Жанчына, якая засталася «галасаваць», закрычала ў напрамку лесу:

— Заяц, давай хутчэй, машына чакае!

— Які табе заяц! — з раздражненнем усклікнуў вадзіцель. — Ты яшчэ ваўка пазаві! — і націснуў на педаль газу...

*г. Рагачоў.*

# Навіны з МУС: матай на вус…




## П'яны майстра

**Супрацоўнікі ДАІ Кастрычніцкага РУУС горада Мінска затрымалі вадзіцеля, які кіраваў аўтамабілем у нецвярозым стане.**

У адзінаборстве кунг-фу ёсць стыль, які называецца п'яным. Авалодаць ім нялёгка, бо ў ім складаная тэхніка вядзення бойкі. «Кунгфуіст» павінен сумяшчаць унікальную «мяккую» працу ног у спалучэнні з шматлікімі падзеннямі і куляннямі. Толькі такія цяжкасці байцоўскай навукі не спалохалі мінчаніна. Для першай трэніроўкі ён вырашыў пакатацца на машыне, а каб усё было па-сапраўднаму, выпіў гарэлкі.

Калі яго заўважылі супрацоўнікі ДАІ, то кінуўся ўцякаць, лоўка манеўрыруючы па вуліцах сталіцы і разганяючы свой аўтамабіль да 180 кіламетраў у гадзіну. Але п'яны стыль кіравання ў вадзіцеля не атрымаўся, на Слуцкай шашы ён з'ехаў у кювет і перавярнуўся.

«Кунгфуіста», якога, дарэчы, ужо лавілі за рулём у нецвярозым стане, затрымалі. Мяркуем, што пасля гэтага ён распачне вывучаць цвярозыя стылі адзінаборства.



## У свае ж сетці

**Групу браканьераў затрымалі ў Веткаўскім раёне. Яны лавілі сеткамі рыбу ў меліярацыйным канале.**

Які рыбак не марыць пра вялікі ўлоў? Але адна справа, калі ты прасядзеў з вудай каля ракі, возера, нарабіў напярэдадні шэраг прыкормак і прынадаў. І зусім іншая, калі рыбак бярэ сетку і з яе дапамогай выцягвае свой улоў. Такім простым шляхам вырашылі пайсці пяцёра жыхароў пасёлка Камунар Буда-Кашалёўскага раёна.

Усяго ў браканьераў атрымалася вылавіць сотню галоў разнастайнай рыбы на суму больш за 30 мільёнаў рублёў. Пры арышце міліцыянеры канфіскавалі іх аўтамабіль, сеткі і рыбу. Зараз праваапарушальнікаў чакае суд і штраф. Трапілі ў свае ж сеткі.



## Выключэнне з правілаў

**У Гродне мясцовы ўладальнік сабакі накінуўся з кулакамі на мужчыну.**

У народзе кажуць, што сабакі вельмі падобныя на сваіх гаспадароў. Але бываюць і выключэнні. Калі мужчына ішоў дамоў разам з сынам, да яго падбег сабака. Жывёла, якая была без намордніка, напужала малога. Бацька зрабіў заўвагу ўладальніку гадаванца, а той разлаваўся і распачаў з ім бойку. У выніку мужчына атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні і зламаў палец.

Узбуджана крымінальная справа. Найлепшае выйсце было б, калі б суд абавязаў уладальніка сабакі насіць намордснік і не кідацца на людзей.

*Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.*



Малюнак Пятра КОЗІЧА.



## Гора-шафёры

Паламаліся два МАЗы
У шафёраў з аўтабазы.
Гайкі, ўтулкі і шкварэнь –
Працы тут на цэлы дзень.
Слесар грукае ключамі,
Зваршчык едзе з правадамі,
Ды вадзіцеляў няма,
І шукаюць іх дарма.

Пад бярозай у цяньку
Сіні ровар на баку
Некалькі гадзін ляжыць,
А шафёр з ім побач спіць.
За майстэрняй ля паркана
Бачыць сны другі шафёр.
Ды ўчастковы нечакана
Тут як тут – спыніў «матор».
Як цяпер ўратавацца,
Каб без працы не застацца?
Кожны з нас павінен знаць:
Руль пры чарцы не ўтрымаць!



**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*




# Парада начальніку



Іван Пятровіч, наш начальнік,
Па лесвіцы службовай рос.
Гарачы быў, нібыта чайнік,
Ды задзіраў угору нос.
На сёмым апынуцца небе
Хацеў, а можа, і вышэй.
– Будзь да людзей
прыязным лепей, –
Яму параіў дзед Яўсей. –
Падымешся сягоння ў неба,
А заўтра на зямлю ўпадзеш...
Твой чын нікому не патрэбен,
Як несумленна сам жывеш.

**Аляксей РУСІНОВІЧ,**
*Светлагорскі раён,*
*в. Пятровічы.*







Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

# Віртуальныя харчы



Віртуальныя прасторы
Ён штурмуе з году ў год.
Моцны целам і не хворы –
Узараў бы лепш гарод.

Гэта справа пачакае,
У музей хай скача конь.
Грозны робат наступае:
«Стой! Назад! Агонь! Агонь!»

За касу даўно не браўся,
Нож без працы затупеў,
Дах цячэ, замок зламаўся,
Са сцяны карніз зляцеў.

Гаспадар у інтэрнэце
Развівае інтэлект.
Не цікавяць жонка, дзеці...
Усур'ёз «завіс» суб'ект.

З дому днямі не выходзіць,
Хоць ты плач або крычы.
Час настаў яму знаходзіць
Віртуальныя харчы!

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# ШРУБА
## З натуры



Лава, якую зладзіў некалі яшчэ Архіпаў дзед і якая прастаяла на падворку не адзін дзясятак гадоў, урэшце струхнела і разваліліся. Мужчына вырашыў, што трэба змайстраваць новую. Старыя ж дошкі выкінуў, папярэдне вывінціўшы з іх дзве шрубы: у гаспадарцы спатрэбяцца. Паклаў тое «багацце» на паліцу, дзе ляжалі цвікі ды гайкі.

Праз некаторы час Архіпу на вочы трапілася добрая дошка, і ён тут жа ўспомніў пра дзядулевы шрубы – ёсць чым замацаваць драўляныя часткі лавы! Аднак на паліцы аказаўся толькі адзін вінцік, другога мужчына, як ні стараўся, не знайшоў. Не дапамог і малы сынок Міхаська, які блытаўся ў таткі пад нагамі. Архіп разгублена развёў рукамі: «З'еў хто тую жалязяку, ці што?»

Здаецца, дробязь, але вячэраць мужчына сеў раззлаваны. Размова за сталом не клеілася. Гаспадар моўчкі сёрбаў заціркy і раптам пасля чарговай лыжкі войкнуў: на зубах штосьці трэснула.

– Шруба? – акругліў Архіп ад здзіўлення вочы. – Скуль яна ўзялася ў маёй талерцы?

Тут нясмела азваўся Міхаська:

– Татка, ты думаў, што яе ўжо хтосьці праглынуў. А я вырашыў, што раз шруба твая, то і з'есці яе павінен ты!..

**Валянціна УЛАДЫСІК,**
*г. Мінск.*




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СЛІВЫ.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# АНЕКДОТЫ

– Мілы, давай купім аўтамабіль. Хоць свет пабачым.

– Які – той ці гэты?

* * *

Дзяўчына на аўтамабілі збіла матацыкліста. Пацярпелы спыняе прахожага:

– Вы не пагодзіцеся быць маім сведкам?

– Не ведаю. Я наогул параіў бы вам не жаніцца пасля такога цеснага знаёмства.

* * *

Размова ў аўтамайстэрні.

– Скажыце, можна што-небудзь зрабіць з гэтай машынай? – пытаецца заказчык.

– Зразумела! – адказвае майстар. – Трэба толькі зняць з яе пярэдні і задні бамперы і ўставіць паміж імі новы аўтамабіль...









Фота
Анатоля
КЛЯШЧУКА
















Малюнак Пятра КОЗІЧА.

# Падарожжа ў краіну Хімландыю

*Фельетон-комікс*

Экаландыя
Хімландыя
Дзядуля! Кажуць, у Хімландыі небяспечна.
Вой! Жахліва.
Калі краіну добра ведаць, то можна ісці смела.
Чакайце, вунь да нас нехта крочыць.
Стаміліся? Вось, купіце!
пячэнне №1
Прадукт утрымлівае ДГК — дагексаенавую кіслату.
Спрыяе стрэсаўстойлівасці, канцэнтрацыі ўвагі і зніжэнню стамляльнасці.
Дзядуля, я адчуваю, што стамілася. Купі мне гэтага карыснага пячэння.
Карыснага ў ім мала. У асноўным — араматызатары, антыакісляльнікі.
А той ДГК не хопіць і для жука.
Не хочаце пячэння?
Вазьміце дзіцячы шакалад у выглядзе яйка!
А ў сярэдзіне знойдзеце сюрпрыз — цацку!

**Андрэй СІДАРЭЙКА**




Усе знаёмыя абзавяліся аўтамабілямі. І толькі ў мяне не было машыны. Жонка доўгі час угаворвала здаць на правы і набыць хоць які-небудзь сродак перамяшчэння. Першае жаданне я выканаў, а другое адклаў на потым. Усё таму, што сэрца не ляжала да жалезнага матора.

– Суседзі, Ксюша з Валерам, на аўтамабілі па буціках ездзяць. Сябры, Таня з Ванем – на дачу. Адны мы на грамадскім транспарце катаемся, – дапякала кожны дзень жонка.

Нарэшце я здаўся:

– Схажу да Вані. Параюся, якая марка аўтамабіля лепшая. У яго дзесяць гадоў вадзіцельскага стажу.

Назаўтра зазірнуў да таварыша ў гараж.

– Прывітанне, Ваня. Парай, якую машыну лепш купіць? – з парога спытаў я.

– Які ты хуткі, – астудзіў ён мой імпэт. – Лепш паглядзі, які ў мяне гараж!

Агледзеўся. Нічога асаблівага – запчасткі, мазут, інструменты...

– Ну і?

– Што ну і? Гэта ж рай! Дзе лепш час правядзеш, як ні тут? Дома – хатнія справы, уборка. Нуда! Таму кажаш

Дзядуля, хачу пакаштаваць!

Цябе вабіць не пачастунак, а цацка.

А замест гэтага, так званага шакаладу, у якім толькі замяняльнікі малочнага тлушчу, лепш выпіць кубак натуральнага малака.

Каб не наш дзядуля, наеліся б усялякай хіміі.

Дарэчы, не пашкодзіла б падсілкавацца!..

Я згодны нават хоць на які «Снікерс».

Кажуць, гэты батончык добра сталяе голад.

Унучак! Большую палову яго каларыйнасці складае тлушч — у такой колькасці, якая забаронена нават сусветнай арганізацыяй аховы здароўя!

...і таксама ў шакаладцы ёсць генна-мадыфікаваныя кампаненты, напрыклад, соя.

Бр-р-р! Жах! Вось ёгурт сапраўды карысны для здароўя!

Павер, унучка, і ёгурты бываюць розныя!

Справа ў тым, што ніхто ў Хімландыі не думае пра карысць для чалавека, а толькі пра сваю выгаду.

Таму лепш вандраваць па Экаландыі.

УСЁ!

Комікс Ганны КІСЛУШЧАНКІ, тэма Андрэя СІДАРЭЙКІ.

жонцы, што трэба памяняць у карбюратары кандэнсат, ды ў гараж. Затым запрашаеш туды сяброў, бярэш бутэльку гарэлкі. І адпачываеш! Дарэчы, будзеш? – з гэтымі словамі Ваня дастаў з пакета «Сталічную» і разліў па чарках.

Цэлую гадзіну сябар з захапленнем расказваў пра свой гараж. Нарэшце я не вытрымаў і зноў запытаў:

– Дык аўтамабіль якой маркі лепш узяць?

– Ды які хочаш! – махнуў той рукой. – У гэтай справе галоўнае – мець гараж.

Так ні з чым і прыйшоў дадому. Жонцы сказаў, што мае погляды па аўтааматарстве адрозніваюцца ад думак сябра.

На наступны дзень вырашыў зазірнуць у гараж да суседа Валеры. Убачыўшы мяне, ён адарваўся ад шахматнага паядынку з самім сабой і спытаў:

– Гуляць умееш?

– Не вельмі, – прызнаўся як на духу.

– Добра, сядай. Будзеш у мяне сёння спарынг-партнёрам. Я ж калісьці на гарадскіх спаборніцтвах прызёрам быў. Марыў пра кар'еру Каспарава. Але неяк не склалася... Дома за любімым заняткам некалі пасядзець. Вось тады ў мяне і з'явілася ідэя: купіць машыну, гараж ды мець свой вольны куток.

– А якую машыну мне лепш купіць? – расстаўляючы фігуры, усё ж запытаў я.



Працяг на стар. 14.




*Тонкі і пранікнёны лірык Пятро (Пётр Фёдаравіч) ГЛЕБКА (1905 – 1969) ніколі не цураўся гумару. Яшчэ як «касілі» ворага яго сатырычныя творы, што друкаваліся ў газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну» і «Партызанскай дубінцы» пад псеўданімам Язэп Касіла.*

*Адзначаючы 110-гадовы юбілей з дня нараджэння пісьменніка, згадаем і некаторыя вершы суровай ваеннай пары, якія пабачылі свет у гэтых выданнях.*



**Пятро ГЛЕБКА**

## НАША МАША



Ад краю ў край па Беларусі
Ідзе гамонка аб Марусі:
Яна аднойчы летнім ранкам
Падбіла пяць нямецкіх танкаў.

Праз нейкі тыдзень тая-ж Маня
Разбіла карнікаў дазвання
І, каб адзначыць чым хаўтуры,
Спаліла дом камендатуры.

Яшчэ дымілася абгар'е,
А ўжо была далёка Мар'я
І на суседнім перагоне
Узрывала рэйкі і вагоны.

Яна, як віхар, налятае,
І ходзіць прыказка такая:
«Там, дзе з'яўляецца Марыся,
Змагацца, немец, не бярыся».

І ўвесь нямецкі штаб гадае:
– Дык, зрэшты, хто-ж яна такая?
Аб ёй заўчора гаварылі
Па ўсіх дварах, як аб Марылі,
А наляцела сёння бурай,
І ўсе завуць чамусьці Мурай.

Чытач! Сказаць я не бяруся,
Ці Мэры зваць яе, ці Муся.
Але малыя і старыя
Паціху кажуць, што Марыя,
Марыся, Мар'я, Маня, Муся,
Марыля, Мура і Маруся –
Дачка, сястра і маці наша,
Народны мсцівец «цёця Маша».

## КАРОТКАЯ РАЗМОВА

У лесе бабка немца стрэла
І тут-жа гоп і ўпала ніц.
– Не бойся, сып, старая, смела, –
Гукае ёй здалёку фрыц.
– Ты думаеш, мне страшна фрыца? –
Гаворыць бабка: – Зразумей,
Што мне ў цябе, паганы гіцаль,
Прылёгшы цэліцца зручней.
Пачуўся стрэл, і мёртвы фрыц
Упаў перад бабулькай ніц.



*Арфаграфія і пунктуацыя арыгіналаў захаваныя.*

*Праця̆г. Пачатак на стар. 12.*

– Спачатку гараж лепш купі, а потым ужо аўтамабіль выбірай, – параіў Валера.

За гульнёй у шахматы мы правялі паўдня.

Калі вярнуўся дадому, сказаў жонцы, што і на гэты раз з маркай не вызначыўся. Тая пачала крычаць:

– Ты проста не хочаш купляць аўтамабіль!

– Не, вельмі хачу! Але трэба яшчэ чыясьці парада для поўнай дакладнасці, – супакоіў я каханую.

Вырашыў звярнуцца да таго, хто не меў гаража. Гэтым аўтааматарам стаў калега па працы Слава.

– Прыходзь да мяне ў двор у суботу альбо ў нядзелю з раніцы, я цябе пракансультую, – сказаў ён таямніча.

Чаму нельга было адказаць адразу, я не зразумеў. «Магчыма, на прыкладзе свайго аўтамабіля хоча паказаць мне штосьці важнае», – падумалася мне.

Завітаў да прыяцеля ў суботу. Якраз у той час, калі калега вельмі старанна прыбіраўся ў салоне, потым праціраў машыну анучай... Затым ён патэлефанаваў жонцы і сказаў, што трэба заехаць да кагосьці ў гараж па нейкія інструменты. Пасля Слава падміргнуў мне: маўляў, ты едзеш са мной.

«Відаць, на месцы пракансультуе», – падумаў я.

Але замест паездкі ў гараж мы нечакана выехалі з горада і накіраваліся да ракі. Там калега дастаў з багажніка машыны вуду, вядро.

– А што, так нельга прыехаць на рыбалку?

– Жонка не пускае. Думае, што на рыбалцы толькі выпіваюць, – уздыхнуў Слава. – Таму даводзіцца хітрыць. А як без рыбалкі? Няхай лепш думае, што машыну рамантую.

Памаўчаўшы крыху, я ўсё ж не вытрымаў:

Ірына ЛЯВОНАВА

# Музычны слых

*Гумарэска*



У адной жанчыны, вялікай прыхільніцы паэзіі і музыкі, жыў кот. Байран быў вялікі, пушысты, важны і дабрадушны. Ён любіў ляжаць на вечку чорнага раяля і слухаць спевы гаспадыні і яе гасцей.

І жылі яны бесклапотна да таго часу, пакуль у маладзіцы не з'явілася дача. Першыя дні ўсе знаходзіліся ў шчаслівым узбуджэнні. Новаспечаная дачніца ўдыхала водар кветак, пляскала ў далонькі, убачыўшы align="" align=""рознакаляровых матылькоў, якія пырхалі з кусціка на кусцік і стваралі нерэальнае пачуццё прыгажосці, асалоды і спакою. А кот, абыходзячы свае ўладанні ўздоўж частаколу, узлазіў на яго і з надзеяй аглядаў наваколле: можа, мільгане дзе хвост сяброўкі ці прашмыгне непадалёк вясковы сародзіч.

І калі недзе на зямлі панавала гармонія, то напэўна ў гэтым маленькім дамку пад чырвоным чарапічным дахам. У пакоі цэлы дзень гучала музыка, дзе пад магутныя басы і крыштальнае мецца-сапрана на вочы чуллівай выканаўцы наварочваліся слёзы, а ў Байрана ў такт сусветных шэдэўраў падрыгвалі лапкі.

Кот драмаў на падаконніку, жмурыў круглыя бурштынавыя вочы і імкнуўся ўлавіць сярод безлічы музычных нот новыя, дзіўныя, дысаніруючыя гукі. Звінелі літаўры, а недзе ў кутку — шур-шур; спявалі флейты, а там — пі-пі-пі.

Першыя дні Байран толькі прыслухоўваўся. Але неяк раз выгнуў спіну, пазяхнуў і, саскочыўшы з падаконніка, накіраваўся напрасткі ў той бок, адкуль чулася непрыемнае шамаценне.

У кутку яго позірк сутыкнуўся з маленькімі чорнымі пацеркамі, якія спачатку са здзіўленнем, а потым са сполахам глядзелі на ката. Шэрая мышка замітусілася, але магутная лапа паляўнічага накрыла хапатлівае жыццё маленькага грызуна.

Кот узяў зубамі ахвяру за хвост і пашыбаваў да гаспадыні. Няхай парадуецца, што не застанецца ў абед без дзічыны. З выглядам «трымай!» ён кінуў да яе ног здабычу.

— Як табе не сорамна, як ты мог?! — крычала яна. — Ты загубіў маленькую безабаронную істоту! І дзеля чаго? Хіба я цябе кепска кармлю?

Жанчына са стогнам паднялася з крэсла і пайшла па шуфлік і венік, каб выкінуць нежывую мышу за парог дома.

Байран зразумеў, вядома, што гаспадыня раззлавалася. Хіба яна, такая вялікая, можа наесціся гэткай драбніцай? І верны сябар накіраваўся ў засаду, спадзеючыся на новую здабычу і на прабачэнне.

Ён лёг у кутку і, паклаўшы вялікую касматую морду на пярэднія лапы, узяўся назіраць за шчылінай паміж падлогай і плінтусам. Ішоў час. Бай-

Працяг на стар. 16.



— Хачу купіць машыну. Якую параіш?

— А ці не ўсё роўна? Галоўнае, каб на ёй можна было на рыбалку ездзіць, — прамармытаў сабе пад нос сябар і замоўк, засяроджана ўглядаючыся на паплавок.

Больш пра машыны мы не размаўлялі...

Апынуўшыся дома, адразу заявіў жонцы:

— Трэба тэрмінова купляць гараж! Так усе аўтааматары робяць. А машына пачакае. Гэта канчатковае рашэнне.

Жонка паглядзела на мяне здзіўлена, але згадзілася.

...А я мяркую гуляць у гаражы ў даміно. Якая марка аўтамабіля будзе ў ім захоўвацца, пакуль не ведаю. Дарэчы, грошы амаль назбіраў. На наступным тыдні купляю.

*Рэчыцкі раён,*
*в. Каравацічы.*

Праця́г. Пачатак на стар. 15.

ран пачаў ужо ў паўдрымоце жмурыць вочы, як да яго данеслася запаветнае пі-пі-пі.

Жанчына сядзела на ганку і, гайдаючыся ў крэсле-качалцы, нешта чытала. Але вось нешта слізганула па назе. Яна падняла вочы ад старонкі і — жахнулася.

— Надумаў здзекавацца з мяне? — верашчала гаспадыня немым голасам. — Ты навошта зноў забіў бедную маленькую мышку? Не смей больш гэтага рабіць!

«Зноў нешта не так», — пранеслася ў галаве бясстрашнага паляўнічага, і кот, панурыўшыся, накіраваўся да хлява. Ён ведаў з аповедаў старэйшых таварышаў па лесвічнай клетцы, што ў такіх пабудовах здабычы заўсёды навалам.

Так працягвалася некалькі дзён. І чым больш крычала жанчына, тым усё больш і больш грызуноў прыносіў ёй нястомны паляўнічы, думаючы сам сабе: «Ну і пражэрлівая ж якая, ніяк не дагадзіць».

У той ракавы дзень гаспадыня ляжала ў пакоі і пад аксамітавыя мелодыі Брамса драмала. На вуліцы то спявалі, то замаўкалі птушачкі. І раптам адна з іх заляцела ў расчыненае акно і пачала спалохана мітусіцца па пакоі.

— Ляці, ляці, маленькая, няма чаго табе тут рабіць, — ускочыла ўладальніца дачы і замахала на спалоханую птушачку рукой.

З'явіўся кот і, убачыўшы мітуслівую фігуру гаспадыні, кінуўся ў пагоню за нязваным госцем. Не прайшло і некалькіх хвілін, як — хоп — і неразумная птушка аказалася ў пашчы драпежніка.

— Жываглот, адпусці нябогу!

Але Байран самкнуў сквівіцы, і ахвяра, страпянуўшыся, замоўкла навек.

Неўзабаве ў доме з'явіліся людзі ў белых халатах. Пасля іх адыходу па пакоі доўга разносіўся спакуслівы пах валяр'яну і яшчэ чагосьці горкага.

Потым кот сядзеў на шафе і назіраў за зборамі. Яны вярталіся дамоў, у горад.

Далікатная натура гаспадыні не магла больш глядзець, як разбураецца гармонія сусвету, і таму, у імя захавання прыгажосці, а таксама сяброўства са сваім сябрам Байранам яна вырашыла наведваць гэты ўтульны дом толькі зімой...

*г. Масква.*




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.

Ганна АТРОШЧАНКА

## Афрыканскі матацыкліст

*З натуры*



Надумаў неяк Пятро купіць матацыкл. Назбіраў грошай ды набыў нарэшце жалезнага каня. Аднак радасць была нядоўгай. Мужчына ніяк не мог падабраць ахоўны шлем, бо меў нестандартную галаву — па форме яна нагадвала вялізны гарбуз.

У крамах мотаэкіпіроўкі прадаўшчыцы толькі ўсміхаліся ды рукамі разводзілі. Маўляў, нічым не можам дапамагчы...

Аднойчы Пятро праходзіў міма кніжнай крамы і ўбачыў на вітрыне школьны глобус. Ад неспадзяванкі мужчына ажно падскочыў на месцы. Гэта ж якраз тое, што яму трэба! І памер, здаецца, падыходзіць. Хуценька набыў глобус і пабег дахаты.

Знайшоў на кухні востры нож. Зрабіў у каштоўным набытку дзірку. Прымераў. Ад радасці ажно крэкнуў. Затым прымацаваў матузкі, пафарбаваў глобус белай фарбай...

Ніхто ў вёсцы, шчыра кажучы, не звяртаў асаблівай увагі на гэты шлем. Аднак трэба было Пятру спаткацца на перакрыжаванні дарог з даішнікам. Пільна прыгледзеўшыся, той спыніў матацыкліста і строга пацікавіўся:

— Што гэта ў вас на галаве?

— Як што? Шлем, — спакойна адказаў Пятро.




# Парнаскія жарты

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

## Як Пегас заржаў не ў час



Ледзь дабраўся да Парнаса,
Паэтаў згледзеў чараду.
Рассядлаў свайго Пегаса:
– Ат, у прозу лепш пайду!
Уцякаў ад цёткі Музы,
Бег, нібыта на пажар.
Ды спыніцца ўсё-ткі мусіў,
Як крылаты конь заржаў –
Так жалобна, бы заплакаў,
Развярэдзіў мне душу...
...І, прысеўшы на канапе,
Вершы новыя пішу.

*г. Жабінка.*

## КУЛІНАРНЫ ЦУД

Як стары мой занямог,
Без зубоў не з'есць і сала,
Не зманю вам, далібог,
Гатаваць я лепей стала.

І цяпер яго кармлю
Толькі творамі заўсёды.
Сёння на дэсерт змялю
Вершаў стос – у асалоду,

Сыпану раманаў пуд,
Забялю баладай крыху...
Кулінарны гэты цуд
Хай смакуе дзед паціху.




**Рэгіна РЭЎТОВІЧ,**
*г. Дзяржынск.*



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Найлепшы падарунак у наш час – гэта кніга. Электронная.

Да рамана ў яго не даходзяць рукі, бо да стала не даносяць ногі.

**Заўважыў Міхась КАВАЛЁЎ,**
*г. Рагачоў.*

– А чаму на ім Афрыка на патыліцы прагледжваецца? – з усмешкай спытаў даішнік.

– Бо матацыкліст... і ў Афрыцы матацыкліст! – знайшоўся Пятро і таксама нясмела ўсміхнуўся.

– Вось яно як, – з хітрынкай у вачах прамовіў даішнік і пачухаў галаву, якая была такой жа круглай, як і ў Пятра. – Разумею... Я таксама сабе шлем доўга не мог набыць. На вось, трымай, – з гэтымі словамі міліцыянер накрэмзаў на паперцы адрас і працягнуў яе мужчыну. – У гэтай краме якраз знойдзеш. І больш правіл дарожнага руху не парушай!..

Пятро з удзячнасцю кіўнуў.



*г. Гомель.*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




**Пачытай і пагуляй!**

**Паважаныя чытачы! На гэты раз вы можаце прачытаць казку, а потым усёй сям'ёй змайстраваць сувеніры з дэталяў на 4-й вокладцы.**

**Пабудзьце разам!**

**Лёля БАГДАНОВІЧ**

# Не ў капялюшыку справа

*Казка*



Сягоння, дзеці, я раскажу вам казку пра капялюшыкі. Каму цікава, сядайце зручней ды слухайце.

Усе ведаюць, што ў лесе можна назбіраць шмат розных грыбоў. Мабыць, і вы хадзілі туды разам з бацькамі ці са старэйшымі, прызнавайцеся. Растуць у лесе баравікі і чырвонагаловікі, махавікі і бабкі, сыраежкі і курачкі, лісічкі і маслякі — нават цяжка пералічыць усіх! Хто пад елачку схаваўся, хто — пад галінку гнілую, якая ад дрэва адвалілася. Хто на палянцы прымасціўся, хто — каля балота. А хто вакол пня карагоды водзіць... У кожнага сваё месца.

Грыбы, дарэчы, не толькі чалавеку даспадобы. Вунь вавёрачка колькі іх у дупло нацягала ды насушыла! Добра да зімы падрыхтавалася. І мядзведзь, і дзік, і алень таксама любяць паласавацца гэтымі далікатэсамі.

Але ж я хачу вам пра капялюшыкі расказаць. Некалі грыбы не мелі іх і таму былі вельмі падобныя паміж сабою. Раслі ўсе разам, туліліся адзін да аднаго ў час дажджу ці хаваліся пад дрэвы ад спякотнага сонца. І толькі ганарысты Мухамор заўсёды стаяў асобна. Ён быў злосны, незадаволены і нешта бурчаў сабе пад нос. Таму і не падыходзіў да яго ніхто: ні звер, ні чалавек.

**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ**

## ЗАГАДКІ

Хоць не смоўж, але рагаты,
Едзем мы на ім дахаты.
За правады учэпіцца —
Вязе па рэйках-лесвіцах.

*(Трамвай.)*

* * *

Разразае ўздоўж аблокі
І імчыць у край далёкі.

*(Самалёт.)*

* * *

Карабель у порт трапляе —
І на дне ён спачывае.
Будзе судна адплываць —
Трэба перш яго падняць.
Што за груз на дне ляжыць?
Здагадаўся? Адкажы!

*(Якар.)*

* * *

Паласатая Агася
На дарозе разляглася.
Пешаход па ёй бяжыць,
А яна сабе ляжыць.

*(Зебра.)*

* * *

Вось фырчыць жалезны конь,
Унутры гарыць агонь.
Нейкі груз вязе імкліва,
Дым над ім — нібыта грыва.
І шматлікія вагоны
Паўтараюць стук ягоны.

*(Паравоз.)*

* * *

Завядзе пілот матор —
І высока паміж гор,
Над балотамі, лясамі
Будзе ён лятаць кругамі.
Не страшны нават снег і лёд —
Усюды сядзе ...

*(Верталёт.)*

Аднойчы прыляцеў у той лес добры чараўнік. Пачаў дарыць усім капялюшыкі — каму які падабаецца. Пазбіраліся вакол яго грыбы. Выбіраюць сабе ўборы да твару. Адкуль ні вазьміся — Мухамор. Выскачыў наперад, схапіў самы прыгожы — чырвоны ў белыя кропачкі — капялюш і ўцёк, ажно пяткі заблішчалі...

Баравічок прыбраўся ў карычневы, чырвонагаловік — у барвовы капялюшыкі. Бабкі апранулі шэрыя, лісічкі — рыжыя, сыраежкі — пярэстыя ўборы.

Задаволеныя, вярнуліся яны дадому і сталі жыць як раней — сем'ямі. Напэўна, вы заўважалі такое. Знойдзеш баравік — пакруціся вакол гэтага месца, прыгледзься ўважліва і абавязкова яшчэ некалькі маленькіх баравічкоў убачыш у траўцы ці пад елкай. Падасінавікі, махавікі, маслякі ды і лісічкі таксама гэтак растуць. Кожная сям'я мае сваю грыбніцу.

Мухамор тым часам пасмейваўся:

— Ой, ды вы шэрыя, як мышы! Ніхто на вас і не гляне. Вось я! Вось у мяне!..

Ён і сапраўды быў упэўнены, што яго абавязкова заўважаць. Але ніхто па-ранейшаму над ім не нахіліўся, не паклаў у свой кошык. Як мухамор ні стараўся — то да баравіка падбяжыць ды стане побач, то да чырвонагаловіка, — а ўсё дарэмна. Нікому не патрэбны!

І толькі аднойчы маленькі Міхаська, які прыехаў з горада да бабулі, убачыўшы Мухамор, радасна падбег да яго і што моцы закрычаў:

— Мамачка, глядзі, які прыгожы!

Маці тут жа перасцерагла малога:

— Не чапай, Міхаська, ён ядавіты!

Як ні выхваляўся Мухамор, як ні ганарыўся сваім уборам, так і застаўся стаяць у лесе, нікому не патрэбны. Відаць, не ў капялюшыку справа... Ты ўсё зразумеў, мой маленькі сябар?

*г. Барысаў.*



* * *

Што за чыгунка пад зямлёю
Нас абслугоўвае з табою?

*(Метро.)*

* * *

Па вадзе стралой лятае,
Хвалі ўгору падымае.
І здаецца, за экватар
Заплыве імклівы ...

*(Катар.)*

* * *

Гул матора чуецца —
Нясецца ён па вуліцы.
Завязе на рэчку, хутар
Наш сталёвы сябра ...

*(Скутар.)*

* * *

Каб па рэчцы пракаціцца,
У яго рыбак садзіцца.
І пасля бывае повен
Карасямі хуткі ...

*(Човен.)*

* * *

І без колаў, і без шынаў
Па вадзе плыве машына.
Не спыніць вецер, дождж і гром:
Упэўнена ідзе ...

*(Паром.)*

*г. Клецк.*



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# Прыпеўкі

Ля адной прыгожай пчолкі
Завіхаліся чмялі.
Ані мёду, ані толку –
Да інфаркту давялі!

* * *

Кліча муж абедаць гуску:
«Я прыгатаваў закуску!»
Толькі гуска за гумном
Шчыпле траўку з гусаком.

* * *

Запыталі у Валодзі,
Чаму пуста на гародзе.
«Бульбу я не стаў саджаць,
Каб увосень не капаць!»




* * *

Надакучыла ў балоце
Жабам – вылезлі на пень.
Бусел у чырвоных ботах
Сыты быў увесь той дзень.

**Праспявала**
**Святлана БЫКАВА,**
*г. Заслаўе.*






– Унук кажа, што трэба быць модным.

Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Валянціны КАСЯК.




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Алега ПАПОВА.




# Агата і Донька



Жылі-былі муж і жонка. Звалі іх Донька і Агата. Калі яны жылі? А тады, як нашы дзяды хлеб у печы пяклі, цапом жыта малацілі, лён у сажалцы мачылі. Жылі не бедна і не багата, пілі мёд замест гарбаты.

Агата была кабета статная, усё пры ёй. Толькі вось любіла на чужых мужыкоў паглядаць. Таму і дастаўся ёй Донька, бо ніхто лепшы не браў. А ён быў крыху слепаваты, глухаваты і лічыў сябе багатым. Скупы, сквапны Донька, тым багацце і нажыў. Валачобнікі пяюць – прэч з пустым мяхом ідуць. Аўса коням адмяраў – паўгарца адсыпаў...

Замясіла аднойчы Агата ў дзежцы цеста, каб хлеб спячы. А ў Донькі ўжо ў галаве думка засела, колькі яна боханаў спячэ і ці не прыхавае каторы, каб потым сваёй беднай сястры аднесці.

Падышло цеста, выграбла Агата з печы жар, кляновым лісцем под засцілае і ў «вольную» печ хлябы на лапаце саджае. А Донька на палацях ляжыць, хворым прыкінуўся. Вочы закрыў, а сам сочыць, колькі тых боханаў за засланкай.

Пачала Агата праз некаторы час хлеб з печы выцягваць ды на ручнік класці. Налічыў муж пяць хлябоў і пытаецца:

– Колькі, Агата, хлябоў спякла?

– Чатыры, Донечка, чатыры, – адказвае кабета.

– Не, пяць.

– Ды не, Донечка, чатыры, кажу табе!

Няўцям было Доньку, што зусім не для беднай сястры адзін хлеб быў прыхаваны, а для ўдаўца Флёркі, які ўсё часцей заглядаўся на прыгожую суседку.

– Дык чатыры ці пяць? – не сунімаецца муж.

А Агата на сваім стаіць, не прызнаецца.

Бачыць Донька, што не даб'ецца праўды ад жонкі і пусціўся на хітрыкі. Залямантаваў на палацях:

– Вой-вой, паміраю я, Агатка, – заенчыў, застагнаў, рукі на грудзях злажыў.

Падбегла яна да мужа, а ён ужо вочы закрыў, амаль не дыхае.

Загаласіла Агата для прыліку (за ім жа беднасці не знала) і вымавіла:

– А хлябоў, Донечка, усё-ткі пяць, але табе пра гэта не знаць, бо больш не ўстаць.

Як пачуў такія словы Донька, саскачыў з палацяў і не глядзі, што быў слепаваты ды нязграбны, а жонку-манюку добра паганяў вакол хаты.

**Запіс і літаратурная апрацоўка**
**Людмілы АРДЫНСКАЙ,**
*Шаркоўшчынскі раён,*
*в. Радзюкі.*

---

**Анатоль ЗЭКАЎ**

*Рыфмаваны анекдот*

## ЯК ТРАПІЦЬ У ДАІ?

Шафёр спыніў машыну:
– Скажыце, дарагі, –
Пытаецца ў мужчыны, –
Як трапіць мне ў ДАІ?

– Ой, майце вы цярпенне
Ўсяго на пяць мінут.
Зрабіце парушэнне –
Даішнік будзе тут.








## «АСІЛАК»

У кума кум спытаўся неяк жартам:
– Ты на сабе пранесці змог бы трактар?
– Пранёс бы і сябе не пакалечыў,
Калі б ты ўскінуў мне яго на плечы.



# Спрытны вожык



*Крыжаванка*

**Па гарызанталі:**

**1.** Вучыся, ..., вучэнне паможа *(прыказка)*. **4.** ... або мёд п’е, або кайданы трэ *(прыказка)*. **8.** ... дасць, але ў хлеў не загоніць *(прыказка)*. **11.** «Балючыя» атмасферныя ападкі. **12.** Яго звычайна мяняюць на мыла. **13.** Пытае старасць, што прыгатавала ... *(прыказка)*. **14.** Сытае ... да навукі глуха *(прыказка)*. **16.** Сума збораў аплаты за што-небудзь. **17.** Каштоўная папера. **19.** «Кажа вожык: \\ – А я ўмею шыць, \\ ... іголак у мяне блішчыць» *(з верша В. Гардзея)*. **20.** «Бяжыць вожык – \\ Туп – туп! \\ Сам калючы, \\ Востры ...» *(з верша А. Лойкі)*. **22.** «Цераз ..., цераз плот \\ Жук ляціць у агарод» *(з верша А. Пысіна)*. **23.** Закончаная частка спектакля. **25.** ... дуб у полі – то не лес *(прыказка)*. **26.** Калі ... (просьба пра што-небудзь). **29.** ... на любую кветку ляціць, але не на кожную сядзе *(прыказка)*. **33.** «Бегла мышка па дарожцы, \\ ... несла кошцы» *(з верша Л. Дранько-Майсюка)*. **35.** «Дзіця, вожык і ...» *(назва байкі К. Крапівы)*. **36.** Навука – не ..., у рот не ўвальеш *(прыказка)*. **37.** Ігральная карта. **38.** «Тут завойкала ..., \\ Тут завохкала жаўна: \\ – Вожык – лекар? Ой, марока! \\ – Вожык – доктар? Ох, мана!» *(з верша В. Гардзея)*. **39.** «Вожык звіўся ў ... \\ І маўчок – \\ І не чхне, хітруга» *(з паэмы Я. Коласа)*.

**Па вертыкалі:**

**2.** «У купальскую ноч \\ Над прасторамі вод \\ Цалаваліся ... з калінаю» *(з верша П. Труса)*. **3.** Жаўранак прылятае на праталіну, шпак – на прагаліну, ... – з цяплом, ластаўка – з лістом *(прыказка)*. **5.** ... і п’яны праўду скажа *(прыказка)*. **6.** «Вожык шэранькі паўзе, \\ На калючках ... нясе» *(з верша А. Старынчыка)*. **7.** Шчасце – не конь, у ... не запражэш *(прыказка)*. **8.** Пітво дамашняга вырабу. **9.** ... не пахнуць *(прыказка)*. **10.** Свату ... або кульбака *(прыказка)*. **15.** Ашуканства, круцяльня. **18.** ... крумкачу вока не выдзеўбе *(прыказка)*. **21.** Манастырская яда. **24.** Лепей свой посны ..., чым чужое сала *(прыказка)*. **27.** Моцнае захапленне, запал. **28.** Марское падарожжа. **30.** Што ..., то і ядок *(прыказка)*. **31.** Пасмяяўся ... з гаршка, што той чорны *(прыказка)*. **32.** Сораму – як у пеўня ... на шпорах *(прыказка)*. **34.** Чым за морам ... піць, лепш з Нёмана вадзіцу *(прыказка)*.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

**Адказы**

**Па гарызанталі:** **1.** Нябожа. **4.** Адвага. **8.** Бог. **11.** Град. **12.** Шыла. **13.** Маладосць. **14.** Бруха. **16.** Тарыф. **17.** Акцыя. **19.** Сто. **20.** Зуб. **22.** Тын. **23.** Акт. **25.** Адзін. **26.** Ласка. **29.** Пчала. **33.** Падарунак. **35.** Змяя. **36.** Піва. **37.** Туз. **38.** Сарока. **39.** Клубок.

**Па вертыкалі:** **2.** Явар. **3.** Жораў. **5.** Дзіця. **6.** Грыб. **7.** Аглоблі. **8.** Брага. **9.** Грошы. **10.** Падзяка. **15.** Хітрыкі. **18.** Крумкач. **21.** Трапеза. **24.** Праснак. **27.** Азарт. **28.** Круіз. **30.** Гадок. **31.** Кацёл. **32.** Мяса. **34.** Віно.



Малюнак
Алега КАРПОВІЧА.



– ... і так вы сцвярджаеце, што кожная ехала па сваёй паласе?..

Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



## Анекдоты

– Чаму мужчына дапамагае адчыняць і зачыняць жанчыне дзверцы ў аўтамабіле? Скажаце, джэнтльмен?

– Канешне, не. Гэта – каб яна дзвярамі не ляпала!



Механік у аўтамайстэрні кажа кліенту:

– Запчасткі, якія вы прынеслі, не пададыходзяць да вашага аўто.

– Цалкам магчыма, – згаджаецца той, – на скрыжаванні нас трое сутыкнуліся.



Пасля таго, як села за руль, акрамя упрыгожванняў і касметыкі, пачала радавацца такім падарункам, як зімовая гума, поўны бак бензіну, новыя дворнікі ці каністра «незамярзайкі».



Раніцай жонка строга пытае мужа:

– Дарагі, дзе ты быў усю ноч?

– Многа будзеш ведаць – адбяру машыну.



Адзін прыяцель тэлефануе другому:

– Слухай, у цябе ворагі ёсць?

– Не, а што?

– Ды я сваю машыну прадаць хачу!

## Анекдоты

З таго часу, як у мяне пагоршыўся зрок, даводзіцца тлумачыць людзям: «Гэта не зневажальны пагляд. Я спрабую зразумець, якога вы полу».

☺ ☺ ☺

Лянівыя ўсё робяць спехам, каб хутчэй справіцца. І робяць якасна, каб потым не перарабляць.

☺ ☺ ☺

Хутчэй, чым выхадныя, заканчваюцца толькі грошы.

☺ ☺ ☺

Павага — гэта калі для таго, каб павітацца з чалавекам, вымаеш з вушэй абодва навушнікі. А калі выключаеш плэер — гэта ўжо каханне.

☺ ☺ ☺

Лепшы спосаб не спазняцца — не прыходзіць увогуле.

☺ ☺ ☺

Свякроў тэлефануе нявестцы:

— Ну, як там мой сыночак?

— Ой, гарэлку п'е, мяне б'е, дома не начуе...

— Ну, дзякуй богу, абы не хаварэў!

☺ ☺ ☺

«Дзесяць капеек буду павінна». Менавіта гэтай фразай прадавец Лена зарабіла свой першы мільён рублёў.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 7 (1522), 2015 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

Рэдакцыйная калегія: Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Ганна КІСЛУШЧАНКА, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*.

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zvyazda.minsk.by.

Паштовы адрас: 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Камп'ютарная вёрстка: Святлана ТАРГОНСКАЯ
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана ў друк 03.07.2015. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. . Тыраж экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск.



## УСМЕШКІ

### Прадбачлівы



Сустрэліся маладыя жанчыны, разгаварыліся.

— Мой муж купіў нядаўна новы аўтамабіль, — хваліцца адна. — Дык я катаюся, колькі захачу!

— А мой нават веласіпед не дазваляе мне купіць, — скардзіцца другая.

— Чаму?

— Баіцца, што па дарозе веласіпед можа сапсавацца. Раптам спыніцца цікавы малады чалавек, прапануе сваю дапамогу, затым прызначыць мне спатканне, мы сустрэнемся — і я здраджу мужу...

### Працаваць не ўмее

— Чаму вы, Ягор Пятровіч, нідзе не працуеце?

— Не магу: я ўсё жыццё кіраваў...

### Дарагое — нясмачнае

Каля магазіна спыняецца шыкоўнае аўто. З яго выходзяць мужчына і жанчына і накіроўваюцца ў гандлёвую кропку.

— Любы, купі мне, калі ласка, марожанае! — просіць яна.

— Выбірай, якое хочаш.

— Вунь тое, самае дарагое.

— Яно нясмачнае, я дакладна ведаю!

### Самы лепшы аўтамабіль



Гурт мужчын спрачаецца, якая іншамарка лепшая. Падыходзіць Іван Іванавіч:

— Самы лепшы аўтамабіль — службовы! Не трэба самому ні рамантаваць, ні запраўляць.

**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

**Міхаіл УЛАСЕНКА**

# ЗБІТЫЯ ІСЦІНЫ

Чалавек, як люстэрка. Усміхнешся – і табе ўсміхнуцца ў адказ, скрывіш твар – і ўбачыш тое ж.

Гасцініца – прытулак для няпрошаных гасцей.

Ён разлюбіў яе з першага позірку.

Любоўны шматкутнік.

Праца бракароба танней аплачваецца, але даражэй абыходзіцца.

Адказных шмат, адказнасць – адна.

Дурань думае, што і іншыя так думаюць.

Стаць на канькі мала. Трэба пастарацца не ўпасці.

Даганяючы – не абагнаць бы.

Каб ашукваць, трэба ведаць праўду.

*г. Горкі.*



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Алега ПАПОВА.

## Сыны і дочкі, майструем грыбочкі!

*(да казкі Лёлі Багдановіч са стар. 18 – 19)*

Выразаць дэталі, скласці і склеіць.

---

# Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**




**ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ 2015 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 29100 рублёў,
індэкс 01380, цана 23200 рублёў,
індэкс 748442, цана 84600 рублёў,
індэкс 01381, цана 66700 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ – па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

